**Швэйцарыя.** У Жэневе закончыласа чарговая VI сэсія Лігі Народаў.

Пытаньне аб гарантыйным пакту не вырашана і перададзена на конфэрэнцыю паслоў заінтарэсаваных дзяржаваў. Аднак прынцыпова высьнілася, што пакт агранічыцца толькі заходнімі граніцамі Нямеччыны. Гэта значыць, што граніцы Польшчы пакт не абымае. На паседжаньні Лігі дэлегат Літвы—Гальванаўскас унёс прапазыцыю аб тым, каб Ліга ўлажыла конвэнцыю аб нацыянальных меншасьцях, якую-б павінны былі падпісаць усе дзяржавы ўваходзячыя ў Лігу. Прапазыцыю падтрымоўвалі Польшча і Румынія. Але яна праваліласяа.

Справа аб Масуле таксама нявырашана. Туркі катэгарычна заявілі, што буцуць з аружжам ў руках бараніць свае правы на гэтую провінцыю. Выбрана камісія якая павінна абсьледаваць пытаньне на месцы.

У Локарно зьехаліся дэлегаты Англіі, Францыі, Нямеччыны і Бэльгіі. Гэта першая конфэрэнцыя, на якой немцы засядуць за агульным сталом народаў побач з пераможцамі, як роўны з роўным. Прэзэсам конфэрэнцыі мае быць Чэмбэрлэн. На будучым тыдні маюць быць запрошаны дэлегаты Польшчы і Чэхіі.

У зьвязку з конфэрэнцыяй сюды прыехаў сэкрэтар савецкага пасольства з Парыжу, які будзе данасіць Савецкаму ўраду і Чычэрыну аб ходзе конфэрэнцыі.

**Англія.** Справа Масула, падзеі ў Кітаі, конфэрэнцыя „пактавая“—вось актуальныя агульна-палітычныя пытаньні. У ўнутраным жыцьці—найбольшае ўражаньне вызывае ажыўленьне ў працы лібэралаў і партыі працы, а галоўным чынам проэкт радыкальнай зямельнай рэформы састаўленай Ллойд-Джорджам. Па гэтаму проэкту ўсю зямлю трэ' аддаць фэрмамі—сялянам. Уласьнікі атрымалі-б за гэта адшкадаваньне.

**Літва.** У зьвязку з літоўска-польскай конфэрэнцыяй у Копэнгагэне—ў Літве наступіла зьмена міністэрскага кабінэту. Сярод літоўскага грамадзянства шырыцца імкненьне да згоды з Польшчай. Адкрыта вядзецца гутарка аб фэдэрацыі. У Клайпэдзе завострываюцца адносіны паміж літоўцамі і немцамі.

# Агляд прэсы.

У зьвязку з прыездам у Польшчу „таварыша“ Чычэрына, уся правая польская прэса не перастае пяяць яму, а разам з ім і С.С.Р.Р., хвалебныя гімны. Толькі адна віленская газэта „Słowo“ займае сярод гэтага дружнага хора зусім асобную пазыцыю і востра выступае проці польска-савецкага паразуменьня.

У артыкуле „Wobec wizyty p. Czyczeryna“, зьмешчаным у № 225, газэта падводзіць усе плюсы і мінусы гэтага паразуменьня. Зусім слушна аўтар бачыць у ім больш мінусаў, чым плюсоў.

> „Англія навучаная ўласнай практыкай, зразумела тую небясьпеку, якой зьяўляецца бальшавізм для сьвета і дзеля гэтага йдзе ў кірунку ўтварэньня ў Эўропе антыбальшавіцкага фронту... Ня трэба забывацца, што на дапамогу ў справе утварэньня гэтага фронту, Англія найбольш разьлічае на Нямеччыну, ня трэба таксама забывацца, што Польшча знаходзіцца напярэдадні перагавораў з Нямеччынай і невядома яшчэ чаго зажадае апошняя ў справе нашых заходніх межаў. Возьмем, далей, пад увагу, што Францыя, аслабеўшая фінансава, з неўрэгуляванымі ўнутранымі справамі і занятая вайной у Мароко, ня зможа, як сьлед, бараніць нас ад прэтэнсыяў Нямеччыны, бо калі-б нават і жадала гэта зрабіць, дык голас яе ў сучасны мамэнт ня будзе мець патрэбнае вагі. Ці, прымаючы ўсё гэта пад увагу, можа быць карысным для нас вядзеньне такой палітыкі, якая бязумоўна ідзе ў разрэз з палітыкай ангельскай?

Далей аўтар зварачвае ўвагу на тую небясьпеку, якой пагражае гэтае паразуменьне ўсей Эўропейскай цывілізацыі:

> „Эўропа пачала прабуджацца ад летаргіі першых пасьляваенных гадоў, яна пачула ў сабе сумленьне, знайшла ізноў пачуцьцё Дабра і Зла. Магчыма, што гэта наіўнасьць, але здаецца, што ня толькі матэрыяльныя інтарэсы, ня толькі страх перад нацыяналізацыяй сьродкаў прадукцыі і транспарту“, а галоўным чынам—начынаючае будзіцца сумленьне Эўропы, змушае яе імкнуцца да стварэньня антыбальшавіцкага фронту. У адвечнай барацьбе Дабра са Злом, тая частка людзей, цывілізацыя якой абапёрта на Хрыстовай навуцы, ня можа доўга заставацца нячыннай. І ў гэты мамэнт Польшча прымаючы ролю пасрэдніка паміж Францыяй і Саветамі, стала на старане Зла. Нажаль гэта праўда, бо перагаворы аб паразуменьні зьяўляюцца брамай для мірнага наступленьня бальшавізма ў Эўропу.

І далей:

> Мы зьбіраемся адчыніць дарогу ў Эўропу навале страшнейшай чым турэцкія і татарскія, бо не варожай веры, а толькі поўнаму няпрызнаньню Бога і ўсялякай рэлігіі, ня чужой цывілізацыі, а зьдзічэньню і звыродненьню, ня іншай этыцы, а гнілі маральнай—на згубу Эўропы, але перадусім на згубу сваю ўласную“.

Запраўды цьвярозы голас!

# У С. С. Р. Р.

## „Грабь награбленое“.

22 г. м. у Слуцку сярод белага дня было аграблена дзяржаўнае казначэйства, пры гэткіх абставінах: у гэты дзень, асабліва многа народу было ў казначэйстве. Стаў шум, гоман. Урадоўцы вельмі „недалікатна“ выразілі жаданьне каб усе супакоіліся. На гэта з народу пачулася: „што, яны будуць на нас крычэць? Бій іх! Бій бальшавікоў!“ Усе прысутныя кінуліся на ўрадоўцаў і пачалі іх біць, а пад шумок — кучка людзей дабралася да касы. Пачаўся рабунак. Выззваны атрад ГПУ абкружыў будынак, і пачалася лоўля рабаваўшых. Удалося злавіць каля 30 чалавек. Большая частка ўцякла, забраўшы каля 500 тысячаў чырвонцаў. Злоўленых, пасьля страшэнных зьдзекаў, расстрэлялі без суда.

Што-ж: „цягаў воўк, пацягнулі і ваўка“ як кажа прыказка. Бальшавікі самі ўсюды крычэлі „грабь награбленое“. А хто болей награбіў як не яны? Ну і грабяць... толькі ўжо іх...

## Выбух у казармах.

28 г. м. у артылерыйскіх казармах у Бабруйску здарыўся выбух снарадаў. Лічуць, што гэта кім-небудзь зроблена сумысьля. Аднак вінавайцаў не знайшлі.

## Масавыя арышты.

Чым слабей чуе сябе ўлада, тым мацнейшы бывае тэррор. У страха, кажуць, вялікія вочы. І баючыся за свой лёс, слабы ўрад заўсёды і ўсюды сочыць і бачыць ворагаў. Бальшавіцкая ўлада ня надта добра сябе чуе. „Знает кошка чье мясо с'ела“. І баючыся, каб ня прыйшлося хутка здаць рахунак за тое, што зрабілі—комуністы пільна сочаць ворагаў. Аднаго слова даволі і—„пажалуйте ў кутузку“. Арышты адбываюцца масамі Дзесяткі тысяч людзей, няма ведама за што, гніюць ў турмах ў ссылках. Не спадабаўся чэкісту і — даволі. Турма абясьпечана. У Барысаве, напрыклад, 27 г. м. былі арыштаваны ўсе больш-менш інтэлігэнтныя жыхары. За што? „по подозренію“. З іх асоб 10 праз пару дзён звольнілі, (нават і там звольнілі! Відаць не маглі-ткі прычапіцца!)—але рэшту трымаюць у турме.

## Усе для... вайны.

„Красная Звезда“ паведамляе што заступнік Фрунзэ—Уншліхт на паседжаньні наркома выступіў з проэктам мілітарызацыі прамысловасьці. Па яго тлумачэньню *падгатоўка ўсяго краю да вайны зьяўляецца галоўнай мэтай дзяржаўнай сыстэмы Савецкай Расіі.* Проэкт прыняты.

Бальшавікі запанавалі дзякуючы лёзунгу „далоў вайну“. А цяперака—вышла шыла з мяшка: усё для вайны!

## Спаскуджанай царквы ня трэба.

Уначы на 22 г. м. у Рагачове спаліўся будынак быўшай царквы, у якім бальшавікі зрабілі кінэматограф. Абвінавачываюць жыхароў, якія былі вельмі абураны прафанацыяй сьвятыні. Даконваюцца масавыя арышты.

## Вынікі савецкага выхаваньня.

Да жыхара вёскі Гарбачы — Ка-

# ДУБ і ГАРБУЗ.

*(З баек Красіцкага).*

Калі ўжо варыву пасьпець прыйшла пара,—
Ты доўга рос?
Гарбуз у дуба запытаўся,
„Сто лет“.
— А я вось у сто дзён,
дык вырас як гара!
„Што толку ў тым, што хутка
так вялікім стаўся“,
Дуб кажа:
„Сталецьці я жыву,
бо рос памаленьку, нязначна.
„А ты вось — хоць вялікі,
дый,кажуць, вельмі смачны
„І хараством сваім слывеш
„Як хутка гэтак вырас,
так хутка і памрэш!“

I шмат каму ў наш век
Трэ‘ памятаваць праўду гэту,
Што чым хутчэй дабіўся славы
чалавек—
Хутчэй тым канець ў Лету

**Б. Друцкі.**

---

Дзеля галоднага аргумэнт „вып'еш і пад'ясі“ — наймацнейшы; Тадорка болей ня думаў. Вярнуўся да Панаса, прысеў і кажа:

— Ну давай выпіць ды пад'есьці, калі так!

Панас дакрануўся да яго слабога цела рукамі і раптоўна сьціснуў, як ціскамі таго за шыю, ушчаміў галаву Тадоркі паміж ног, ды кіём пачаў біць па хрыбце і нагах мальцавых.

Той схапіўся, каб вырвацца, уцячы — было ўжо позна! сьціснутую нагамі Панасавымі галаву ня мог павярнуць, — тулавам трапятаў толькі, танцуючы канвульсыўна ад болю...

Панас выліваў усю сваю злосьць на ім; плаціў яму за свой перад гэтым, страх, за сваю зьнявагу і просьбы... Біў і біў, кажучы злосна:— Вось табе выпіўка! Вось табе закуска, каб цябе пярун лепей!

— Ай, ратуйце!!! — крычэў Тадорка трапечучы.—Дзядзенька, Панасачка; родненькі пусьці!

— Ці будзеш уцякаць, каб цябе.

— Не, родненькі! Ой, ратуйце!!! Ня буду... пусьці!

— Ня веру цяпер табе, — казаў Панас, паклаўшы кіёк; дастаў дзягу доўгую, якой быў падпярэзаны, сьціснуў абедзьве рукі Тадоркавы разам, зьвязаў іх моцна, і канец зачапіў за свой пояс ад штаноў, які быў даволі моцным, і тады аслабаніў Тадорку. Той разам кінуўся ў бок... Памыліўся, — ня мог ужо ўцячы: Панас злосна сьмяяўся.

— Цяпер я цябе маю, галубок, пад нагой!— казаў Панас і сеўшы пачаў спакойна цягнуць гарэлку з бутэлькі, ды заедаць смачна,—мальцу нічога не даваў і той хліпаў, лежачы на пожні, ля боку Панасавага; ня мог целам крануць: усё было кійком абабіта.

Спаражніўшы бутэльку, Панас чуў сябе лепей, на'т вясёлым зрабіўся.

Падняўшыся, ён пацягнуў за сабой на дзязе Тадорку, які ўстаў, стогнучы ад болю.

— Ну вядзі да Лепля, калі ня хочаш быць бітым!

Тадорка крануўся моўчкі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Надыходзіў вечар. Да Лепля было вярсты тры. Тадорка са зьвязанымі назад рукамі, вёў Панаса, які важна папіраўся кійком, хістаючыся на бакі.

Чуючы што Тадорка паслухмяна вядзець. Панас на'т спробаваў пяяць, але зараз-жа ўстрымаўся, бо нешта такое, мо' сумленьне, непакоіла ягоную душу. Рабіўся неспакойным чагосьці. Ішлі... Дарога віляла, каб не зачапіць гдзе макраты: мінала балоты з вужакамі, парузьнікі з ваўкамі, вазёры з рыбай, і прарэзаўшы прасьцей Селішчы зьблізілася да берагу глыбокае і чыстае ракі Вульлянкі.

Тут быў ля' самай дарогі страшэнны абрыў...

Ледзь пляцецца ад слабасьці і болю Тадорка.. Рукі, сьціснутыя дзягай, набраклі і наліліся крывёй — іх ён ад болю ня чуў зусім...

Раптам ён стаў.

За адзін крок быў страшэнны абрыў... Зьнізу зіяла прорва.

Што стаў! — крыкнуў пьяны Панас, корчучы з сябе вялікага начальніка.

— Не магу далей — змарыўся...

— Брашы, сабака! падганю ізноў! Вядзі, каб цябе пярун!

Кійком узмахнуў наўперад і трапіў па нагах Тадоркавых.

— Ай! — крыкнуў малец і... заваліўся... За ім страціў раўнавагу пьяны Панас і... зваліўся ўніз галавой. За ім шмыгнуў, дзягай прычэпляны за штаны, Тадорка...

...Ба-бух!!! Рака адазвалася па свойму, прыймаючы ў свае нетры абодвух...

...Нешта айкнула слаба, тонкім галаском, як Тадорка...

Ахнула глуха страшна, як Панас, і пабегла ўсюды паведамляць аб страшэнным здарэньні...

А Лепля, асьвечаны заходзячым сонцам, тануў у садох; царквы залочаны купал маніў да сябе пілігрымаў ня бачучы і ня чуючы здарыўшагося няшчасьця...

Толькі вялікі звон касьцёлу адазваўся тры разы плачучым, задушэўным і сумна-чулым тонам, як-бы шкадуючы беднага павадыра Тадорку і пьянога сьляпога Панаса.

А. В.

